# ВЕСТКІ З КАНАДЫ

## УЛАДЫКА МІКАЛАЙ У САДБУРЫ

Стараньнем Аддзелу ЗБК у Садбуры ў днях 14-га да 19-га верасьня Яго Праасьвяшчэнства Уладыка Мікалай наведаў беларускую калёнію ў Садбуры. 15-га верасьня ў летнім доме Сп-ва Курыловічаў Уладыка адправіў Сьв. Літургію. На Багаслужбе была прысутная даволі лічная грамада мясцовых Беларусаў. Варта таксама асабліва зазначыць, што сябры Аддзелу ЗБК пры гэтай нагодзе злажылі на талерку суму 100.00 дал. ахвяры на БАПЦ у Канадзе. А на сплату доўгу на будынку БРГЦ у Таронта злажылі ахвяраў: Сп-ва Марыя і Васіль Прыстаўка 100.00, Ліда і Янка Мятла 50.00, Боўшары 22.00 і Мікалай Прыстаўка 10.00 дал. Слава Вам Садбурцы! Надзеюся, што за Вашым прыкладам пойдуць і іншыя.

Пасьля Сьв. Літургіі адбылося высьвячэньне летняга дому Сп-ва Курыловічаў, дзе адбывалася гэта вельмі мілая імпрэза. Пасьля паважных мамэнтаў пачалася больш сяброўская і менш афіцыйная частка праграмы. Быў абед, экскурсыі на маторнай лодцы па возеры пад кіраўніцтвам маладога Віктара Курыловіча, іншыя ізноў трымаліся бліжэй „бару", а яшчэ крыху пазьней і некалькіх „на здароўе" пачаліся разьлягацца беларускія песьні. Суседняе племя Індыянаў, што жыве праз перашыек возера, ня пратэставала за нарушаны спакой Канадыйскай поўначы, а пагода не магла быць больш спрыяльная. На маю думку, гэта імпрэза была адной з найкарысьнейшых, як для мясцовага грамадзтва, так і для нашай агульнай справы. Дзякуем за добры пачын Сп-ву Курыловічам і ўсім сяброўкам і сябром за іхную падтрымку і зразуменьне справы. Ужо вечарэе і нам з Таронта пара вяртацца да хаты. Разьвітваемся з нашымі мілымі сябрамі й да наступнага разу, Садбурцы!

**М. Ганько**

### ГАДАВЫ БАЛЬ ЗЬ ЛЯТАРЭЯЙ

Сёлетні гадавы баль Выдавецка-Мастацкага Клюбу „Пагоня" адбыўся 5-га кастрычніка ў залі Б.Р.-Г. Цэнтру ў Таронта, на якім былі разыграныя 5 выйгрышаў па 50 дал. кажны, плюс прэмія на 25 дал. за прадажу лятарэйных білетаў, якую атрымаў сп. В. Целеш. Камісія ў складзе сп-няў Л. Бакуновіч, Н. Чорнай і сп. Я. Ганька правяла розыгрыш. Сярод гэных шчасьлівых былі наступныя асобы: сп-ня Г. Харавец, Ю. Акула, Я. Пачкур, К. Стэйлі і Г. Гэмпнэр.

У перапынку ўправа Клюбу, супольна з гасьцямі з Эдмунд Буркэ Сосаеты (ведамае з антыкамуністычнае дзейнасьці) прысьвяціла пару цёплых прамоваў Клюбу „Пагоня" і пры гэтай нагодзе быў уручаны дарунак прызнаньня сп. К. Акулу — аўтару нядаўна выдадзенай аповесьці ў ангельскай мове „Туморў іс естэрдэй".

Аркестра „Мэлёдыя" пад кіраўніцтвам сп. Лісчонка добра спраўлялася із сваім заданьнем, гэтым разам прыдбаўшы некалькі новых родных мэлёдыяў. Госьці з далёкага Дэтройту, Лёндану, Гвэльфу й Стратворду, як і з блізкай Ашавы былі задаволеныя з балю й не шкадавалі, што прыехалі.

**— іч.**

### АХВЯРА

**Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар!**

Высылаю пры гэтым чэк на 10 дал. на Выдавецкі Фонд „Беларуса" замест вянка на магілу нашага Генэрала Сьвятой Памяці Франьцішка Кушаля.

Монтрэаль, 24 кастрычніка 1968

З пашанаю да Вас **Вітаўт Ромар**



**СЬВЯТОЙ**  **ПАМЯЦІ**

4-га кастрычніка 1968 году ў Вініпэгу (Манітоба) адыйшоў на вечны супачынак

**КАСТУСЬ НАВІЦКІ**

Нябожчык, калі жыў яшчэ ў Таронта, быў неаднаразовым сябрам Управы Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня ў Таронта ды сябрам Царкоўнага Камітэту парахвіі сьв. Еўфрасіньні Полацкай.
Гэтак-жа прымаў Ён дзейны ўдзел і ў грамадзкім жыцьці беларускай калёніі ў Вініпэгу.
З найглыбейшым спачуваньнем тым, што асталіся ў няўтульным жалі: сп-ні Лідзе Навіцкай, ейнаму ўнучку і зяцю, паведамляюць аб гэтым сябры і прыяцелі з Таронта.

## У БНА І ПАРАХВІІ СЬВ. ЕЎФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ

Летні сэзон 1968 г. у гэтай грамадзе быў адзначаны дзьвюма шматлюднымі і наагул вельмі ўдалымі маёўкамі на фарме гасьцінных сп-ва В. Кісялёў недалёка ад мястэчка Пэфэрлё.

У першых днях ліпеня — **„Купальле"** (паводля старога стылю!)

Граблі мы сена (каб ачысьціць, раней скошаную вялікую лапіну пад маёўку: месца на стаўляньне аўтаў, палатак, і вогнішча). Складалі сена ў капу. А так як сп. Кісель меў толькі двое грабель, дый то адны зялезныя, працавалі толькі па двух, а іншыя, чакаючы на чаргу, крытыкавалі. Із спраўных работнікаў, адразу прыпісваючы іх у „кулакі", жартавалі: „Кулак кругом спрытны". Звозілі зь лесу карчы на вогнішча, рвалі папараць, якой тут была процьма. Дзень быў ясны, сонца сьвяціла, і ніхто з нас і ня думаў сарваць „кветку шчасьця" — (зайздросныя сілы лесу, відаць, і цяпер сьцераглі яе), а мы тым часам агледзеліся, што ўва ўсіх нас пакалечаны рукі да крыві, за выняткам у сп. Кісяля, які толькі падсьмейваўся з нас, і нашых „далікатных рук".

А мужчыны нашы задумалі зрабіць на вячэру нешта адмысловае беларускае. Гэта вам не якая-небудзь курыца, ці індык, а 80-ці фунтовы парсюк на ражне. Пасьля доўгіх мук і цярпеньняў пры гэтай смажыніне, (не парасяці, а кухароў), на густатара ейнага смаку выбралі Жука, цудоўнага сабаку гаспадароў, і тады выявілася, што выбар быў вельмі няўдачны, бо Жук панюхаў смажаніну, пачуў пах дыму і адвярнуў нос. Затое калі паставілі яе на сталы гасьцём, хутка засталіся толькі косьці.

А побач вогнішча. Смольныя карчы пылаюць увысь, здаецца, неба падпаляць. Скакаць праз гэты агонь ніхто не асьмеліўся, але пяялі і танцавалі мы навакол яго пад музыку сп. Лісчонка далёка, далёка за поўнач.

І пра начлег нікому галава не балела, бо-ж, не гаворачы ўжо пра палаткі, якія некаторыя мелі, і абшырнае гаспадаравае гумно, навокал сядзібы сп-ва Кісялёў цяпер ужо амаль цэлы беларускі летні пасёлак разбудаваўся. Тут і сп-ва Пітушкі, тут і Бабуля Крываносіха, тут і гаспадаровыя кумы, а нашыя знаёмыя, сп-ва Мядзьведзь, а за хвілін 15 дарогі і другі падобны пасёлак сп-ва Р. Беразоўскіх ды сп-ва А. Высоцкіх і кампаніі.

Гуляньне мусіла быць вясёлым і галосным, бо адбілася аж гулкім рэхам у мясцовай канадыйскай газэце ў Пафэрлё. Карэспандэнтка гэтай газэты пасьля гутаркі із сп. Кісялём зьмясьціла даволі даўгую заметку, у якой пісала, што ў сыботу каля 200 Беларусаў, сабраўшыся на маёўку на фарме сп. Кіселя, традыцыйнымі сьпевамі і танцамі пры вогнішчы адзначалі старадаўнім сваім звычаем сьвята „Купальля".

**Зажынкі.** Ня дзіўна, што ў гэтую гасьцінную ваколіцу ў жніўні мы завіталі ізноў на маёўку „Зажынкі", памагаць сп. Кісялю жыта зажынаць. Хоць і заржавелыя сярпы (бо-ж і трымае ён іх пад бэлькай толькі із сэнтымэнту, бо прыпамінаюць яму родную вёску), жвава шуршаць пад імі жмені жытніх сьцяблін. Ад сьвежа зрэзанай саломы, здаецца, Беларусьсю запахла.

Ізноў адно два сярпы, ізноў дзьве нецярплівыя чэргі, кажны хоча хоць папробаваць ды пахваліцца, што калісь умеў. Разахвочаныя жанцы ўвесь загон хіба выжалі-б, сп-ня Рымша дык навет і паясьніцу перавеслам сабе перавязала, каб сьпіна не забалела, толькі падганяюць, кідаць клічуць, што а. Якаў вячэрню пачынае служыць.

Пры вячэры, праўда не на покуці, але на пачэсным месцы на пачатку даўгога раду сталоў красуецца не адзін сноп, а цэлая ляжка із снапоў, прыбраныя жывымі палявымі кветкамі.

Ізноў парасё на ражне, ізноў вогнішча, і танцы пры ім да позьняй ночы.

**Пачатак школьнага году.** Лета прайшло, і пачаўся йзноў час працы. Школьны год у беларускай сыботняй школе пачаўся адумысловым малебнам для школьнікаў. Шмат было на ім вучняў, нажаль, у школу вярнулася шмат менш. Асабліва старэйшая моладзь разам із сваімі бацькамі ўважае сябе занадта эдукаванымі, каб вучыцца беларускай мовы.

**Дажынкі.** У сыботу 12 лістапада пры нагодзе агульнаканадыйскага „Тсэнксгівінг Дэй" ладзілі мы „Дажынкі", але ў горадзе, у царкоўнай залі. І ў часе гэтага вечара, як і ў часе летніх маёвак гаспадарлівыя сябры Царкоўнага Камітэту і сяброўкі Жаночага Аб'еднаньня патрапілі спалучыць прыемнае з карысным, ды сабраць досыць значныя сродкі на пабудову і ўладжаньне кухні пры залі.

**В. П.**







### ЕХАЦЬ У САВЕЦКІ САЮЗ НЕБЯСЬПЕЧНА

Як паведамляе ўкраінская газэта „Вільнэ Слово" з 26 кастрычніка, езьдзіць у вадведзіны ў Савецкі Саюз ня ёсьць бясьпечна. „7 чырвеня г. г. зь места Пармы, Огаё, выехала ў Украіну група 16 Украінцаў турыстых, сярод якіх быў Андрэй Літоўка з Кліўленду. Яго арыштавалі 20 верасьня ў Кіеве, як „ваеннага злачынцу". Абуранай групе турыстых, што пратэставала супраць арышту, прадстаўнікі ўлады заявілі, што бацька Літоўкі ў часе нямецкай акупацыі быў „старастам", а ён сам забіў больш як 300 людзей.

Андрэй Літоўка жыў у часе нямецкай акупацыі ў Крывым Розе. Напэўна ён ня меў на сваім сумленьні ніякіх забойстваў, як цьвердзіць КГБ, бо інакш ня ехаў-бы на Украіну. Ягоны арышт яшчэ раз сьветчыць пра тое, як асьцярожным трэба быць да гутарак, што ехаць на Украіну зусім бясьпечна".

## СУРОДЗІЧЫ БЕЛАРУСЫ!

Дзесяць гадоў таму назад беларускае грамадзтва ў Канадзе супольнымі сіламі купіла вялікі будынак у Таронта, які служыць рэлігійна-грамадзкім мэтам і затым называецца Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтрам.

Цана гэтага будынку ў канадзкіх далярах даволі высокая, але каштоўнасьці ягонае для нас нічым ня можна вымераць, бо гэта ёсьць кусок нашае Бацькаўшчыны.

Да гэтага часу будынак сплачваўся рэгулярна паводля ўстаноўленых ратаў плюс 6 з палавінаю працэнтаў у год ад нясплачанай сумы.

Прыблізна за год часу ад сяньня канчаецца тэрмін сплаты гіпатэкі (даўгу) на доме ў суме 11.500 даляраў. Адміністрацыя дому мусіць недзе знайсьці гэтыя грошы, каб будынак быў канчаткова сплачаны й стаўся непадзельнай собскасьцяй беларускага грамадзтва.

Пазычыць грошы ў канадзкім банку ці іншай фінансавай фірме ня ёсьць карыснай разьвязкай дзеля высокіх працэнтаў, якія была-б змушаная сплачваць група Беларусаў Таронта.

Найлепшым выхадам з гэтае сытуацыі было-б здабыцца нам усім на яшчэ адзін высілак і злажыць гэтую суму.

Царква будзе, як і да гэтага часу, прыймаць ахвяры й выдаваць квіты важныя пры разьліку з Атавай як залучнік да гадавой справаздачы аб прыходным падатку.

Дзеля праводжаньня акцыі зборкі грошай створаны адмысловы Камітэт Сплаты Гіпатэкі ў складзе: Яго Праасьвяшчэнства Уладыкі Мікалая, сп. Г. Барановіча й сп. Б Кіркі.

Сабраныя грошы ня будуць трымацца ў банку, а адразу пойдуць на выплату дому.

Камітэт заклікае ўсіх Беларусаў разважыць усё вышэй сказанае й адразу падтрымаць распачатую важную справу. Грошы просім высылаць на адрыс:

Rt. Rev. M. Macukievich
129 Emerson Ave., Toronto 4, Ont.

**Камітэт Сплаты Пазыкі**

### ДЭМАНСТРАЦЫЯ Й КОНТРАДЭМАНСТРАЦЫЯ

Падобна як і апошняй вясною — трацкісты, ветнікі, пісьнікі й усякія левыя групы зарганізавалі дэманстрацыі ў Таронта ў сыботу 26 кастрычніка (да іх трэба дадаць і амэрыканскіх дызэртыраў — доджэраў), як пратэст супраць вайны у Ветнаме, з дамаганьнем вываду амэрыканскіх войскаў адтуль і спыненьня бамбардаваньня Паўночнага Ветнаму. Дэманстранты вялі сябе нахабна й сярод іх было звыш 30-цёх арыштаваных. Характэрна, што ніводзін іхні плякат ані словам не ўспамінаў савецкай акупацыі Чэха-Славаччыны, як і народаў паняволеных Маскоўскай імпэрыяй.

Усім ведамая арганізацыя студэнтаў „Эдмунд Буркэ Сосаеты" зарганізавала эфэктыўную контрадэманстрацыю з удзелам Беларусаў ад 10-ай гадз. раніцы й сарвала шмат чаго з плянаў „пісьнікаў", што шырака насьвятляла ўся прэса, радыё й тэлевізыя. У некаторых мясцох адбыліся й сутычкі з бойкамі па віне левых „кудлацікаў", але паліцыя хутка наводзіла парадак.

**А. — віч.**

## „Хай будуць душы усякія"

Бываючы на розных сходах і сходках, слухаючы прыватных размоваў і рэплік у дачыненьні да „Беларуса", чалавек ня можа не разважаць, якой павінна быць нашая газэта, што ў ёй мусіць быць, чаго ня можа быць, на што ў ёй ёсьць, а на што няма месца. Якой яна павінна быць, каб магчы выконваць сваё заданьне — служыць вызвольнай беларускай справе.

Вызвольны рух — гэта змаганьне. Газэта ёсьць яго аружжам. Такую-ж ролю адыгрывае й мастацкая літаратура, калі яна служыць гэтай-жа ідэі. Газэта — прэса змагаецца з ворагам не зялезам і агнём, а словамі й ідэямі, не фізычна, а маральна. Каб быць добрым аружжам, прэса мусіць быць:

1. Узгадаваўчай — узмацняць нашую маральную сілу, узмацняць нашую сілу адпору, аб якой гаварыў галоўны дакладчык на 8-ай Сустрэчы Б. П. А., супраць напіраючай сілы ворага.

2. Яна мусіць вырабляць добрую апінію аб нас у чужых і ворагаў. Прымусіць іншых „. . . у пашане мець сябе . . ." (нас).

3. Яна мусіць дакумэнтаваць высілкі, намаганьні, дасягненьні й няўдачы нашага пакаленьня, каб гэтым тварыць ступеньку, па якой нашчадкі змогуць падымацца да дасягненьня мэтаў цэлых пакаленьняў.

4. Яна мусіць, безумоўна, падаваць праўдзівыя, як мага аб'ектыўныя, факты й інфармацыі.

Такой павінна быць нашая прэса. Аднак, каб яна магла так узьдзейваць на сваіх і чужых, яна мусіць чытацца, мусіць быць на высокім фаховым, культурным і ідэйным узроўні. А так як газэта ёсьць такой, якімі ёсьць людзі, што яе пішуць, дык просты высноў, няхай яе пішуць людзі высокакваліфікаваныя, культурныя, ідэйныя, ды да таго, каб хоць частка зь іх была й мастакамі. А што, калі такіх людзей у нас мала, ды й на тых узложана яшчэ шмат іншых справаў? Тады замест ідэальнага трэба прыняць рэальнае: усе карэспандэнты „Беларуса" ня могуць быць высокакваліфікаванымі. На пацеху, некаторыя ўважаюць, што людзям звычайна не хапае ня гэтак здольнасьцяў, як мэты — моцнае матывацыі, моцнага хаценьня дасягнуць нешта. Значыць хаценьнем, актыўным хаценьнем — працай, можна шмат чаго дабіцца. Калі-ж так, можам перайсьці да парадку дня й разгледзіць некаторыя рэплікі ў дачыненьні да „Беларуса".

Некаторыя гавораць, што ў газэце за шмат літаратуры й аб літаратуры. Адныя хацелі-б чытаць аб вайсковасьці, другія аб тэхніцы, трэ-

# АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД БАПЦ У АНГЕЛЬШЧЫНЕ

У сыботу 12 кастрычніка 1968 г. ў памешканьні Беларускага Грамадзкага Дому ў Брадфардзе адбыўся 3-ці Агульны Зьезд Праваслаўных Беларусаў, што належаць да Беларускае Аўтакефальнае Царквы на Чужыне.

Зьезд распачаўся а 6-ай гадз. вечарам малітваю „Ойча наш", пасьля чаго старшыня ўступаючай Управы Рады БАПЦ сп. Хведар Кажаневіч прывітаў прысутных, жадаючы добрых посьпехаў у правядзеньні Зьезду, ды заклікаў іх да паважнае працы на карысьць БАПЦарквы.

У Прэзыдыюм Зьезду былі выбраныя: сп. Янка Міхалюк — старшыня, сп. Бэнэдыкт Кляйноў — сакратар. Па прачытаньні прывітаньняў Зьезду ад: Яго Высокапраасьвяшчэнства Уладыкі Васіля, Яго Высокапраасьвяшчэнства Уладыкі Мікалая з Канады й Яго Высокапраасьвяшчэнства Уладыкі Андрэя з Клíўленду, Настаяцеля БАПЦ у Бэльгіі а. прат. д-ра Аўгена Смаршка, Настаяцеля УАПЦ у Брадфардзе, а. Міхаіла Хутырнага ды іншых прыходаў БАПЦ і беларускіх арганізацыяў, Зьезд прыступіў да працы згодна парадку дня.

Тады быў прачытаны пратакол папярэдняга Зьезду, які быў прыняты апрача дробнай зацемкі, што слова „камітэт" павінна быць заменена словам „управа". Пратакол з гэтай папраўкай быў прыняты аднагалосна.

Справаздачу зь дзейнасьці Управы Рады БАПЦ зрабіў уступаючы старшыня сп. Х. Кажаневіч. Дакладнейшыя высьненьні ў справе гэтае дзейнасьці даў уступаючы сакратар сп. Янка Калбаса. Прысутныя пераканаліся, што была выкананая на працягу трохгадовае кадэнцыі Управы Рады БАПЦ вялікая праца.

З прачытаных справаздачаў Парахвіяльных Управаў было відаць, што супрацоўніцтва між парахвіянамі й Настаяцелем БАПЦ а. Янкам Абабуркам было вельмі цесным і ўзмоцніла царкоўнае жыцьцё як у парахвіях, гэтак і ў краіне наагул.

Пасьля абшырных і карысных дыскусіяў над справаздачамі на прапанову старшыні Прэзыдыюму Зьезду сп. Янкі Міхалюка было дадзенае ўступаючай Управе Рады БАПЦ абсалюторыюм з падзякаю пад бурныя воплескі.

Абмяркоўваючы плян на будучыню, было запрапанавана прытрымлівацца між іншага наступнага: 1. Агульныя Зьезды Вернікаў БАПЦ праводзіць што два гады; 2. праводзіць збор грошай на Фонд БАПЦ; 3. зьвярнуць большую ўвагу на ўзгадаваньне беларускае моладзі ў праваслаўным і нацыянальным духу; 4. трымаць цесны кантакт із Сынодам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне.

**Новая Управа Рады БАПЦ у Вялікай Брытаніі:** Адкрытым галасаваньнем Зьезд выбраў Управу Рады БАПЦ у наступным складзе: сп. Бэнэдыкт Кляйноў — старшыня Управы Рады, сп. Янка Калбаса — сакратар, сп. Хведар Лемяшонак — скарбнік.

Пастаноўлена, што ў склад сяброў Рады ўвойдуць па адным прадстаўніку ад кажнае Парахвіяльнае Управы. Прозьвішчы гэтых прадстаўнікоў павінны быць прысланыя ў Управу Рады БАПЦ пасьля перавыбараў Парахвіяльных Управаў.

**Настаяцель БАПЦ у Вялікай Брытаніі:** Настаяцелем Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вялікай Брытаніі ёсьць а. Янка Абабурка, які пражывае ў Манчэстары.

# НАШ „ПОЛАЦАК"



**Адзін з куткоў „Полацку"**

У пачатку мінулага году сябры беларускага актыву ў Кліўленьдзе пачалі былі стараньні, каб набыць адпаведны аб'ект дзеля Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Кліўленьдзе. Пасьля даўгіх шуканьняў удалося знайсьці адпаведны зямельны аб'ект із 14-ёх акраў зямлі, зь вельмі добрым домам ды іншымі будынкамі за 80 тысячаў даляраў на прадмесьці Кліўленду—Стронгсвіл. Дзеля таго, што гэтае месца будзе служыць для грамадзкіх і культурных патрэбаў беларускае калёніі ў Кліўленьдзе, паўстала думка, каб дакупіць яшчэ суседнюю фарму з 8-ёх акраў зямлі, домам ды невялікім возерам за 30 тысячаў даляраў.

Гэткім парадкам, абодвы аб'екты каштуюць 110 тысячаў даляраў. Купля даволі рызыкоўная, але ейныя інтэнцыі шляхотныя. Ніхто ня будзе мець асабістае матарыяльнае карысьці, затое скарыстае беларуская калёнія ў Кліўленьдзе, а перадусім ейнае маладое пакаленьне, а так-жа будзе вялікі гонар і для ўсяе беларускае эміграцыі.

Тут можна будзе заснаваць невялікае беларускае селішча, бо адведзеныя дзялянкі пад будову дамоў. Ужо знайшлося колькі сяброў карпарацыі „Полацак", што жадаюць набыць сабе дзялянкі. Таксама плянуецца пабудаваць спартовыя пляцы, басэйны для купаньня, танцавальную залю ды іншыя ўладжаньні, патрэбныя для разьвіцьця нашае калёніі.

На агульным сходзе сяброў карпарацыі было выбранае ейнае кіраўніцтва ў наступным складзе: С. Карніловіч — кіраўнік, інж. К. Калоша — сакратар-скарбнік, Лёля Міхальчык, А. Міраеўскі й А. Стрэчань — сябры кіраўніцтва.

Бальшынёю галасоў было пастаноўлена, каб поўны назоў гэтага грамадзкага цэнтру быў наступны: Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтар „Полацак". Зразумела, зойме шмат часу ды будзе трэба шмат грошай і працы, каб зрэалізаваць усё запланаванае ў „Полацку". Але ўсё адразу ня робіцца. Шлях да мэты будзе цярністы, але, спадзяючыся на патрыятызм ды зразуменьне беларускае калёніі ў Кліўленьдзе й на актыўнае падтрыманьне ўсяе нашае эміграцыі, „Полацак" будзе разьвівацца. Праўда, цяпер ёсьць вялізарныя цяжкасьці. Але як пабудаваны ў 1960 годзе будынак БАПЦарквы ў Кліўленьдзе ўжо блізкі поўнае сплаты й хутка станецца поўнай уласьнасьцяй прыхаджанаў, гэтак і „Полацак" з часам будзе выплачаны й станецца вялікім здабыткам Беларусаў Кліўленду й усяе нашае эміграцыі.

Каб быць будаўніком „Полацку", трэба набыць найменш адну шэру ў вышыні 100 даляраў. А затым мы ветліва зьвяртаемся да нашых суродзічаў у ЗША й Канадзе, каб сталіся сябрамі-будаўнікамі „Полацку". Ад некаторых мы ўжо грошы атрымалі. Грошы можна высылаць на скарбніка карпарацыі „Полацак" паводля наступнага адрысу:

Mr. K. Kalosha
11022 Webster Road
Strongsville, Ohio 44136.

**С. К.**

# ЖЫХАРСТВА СЬВЕТУ Й АМЭРЫКАНСКАЯ СЯМ'Я

Паводля „Дэмаграфічнага Гадавіка" ЮНЭСКА, у сярэдзіне 1967 году на сьвеце было блізу тры з палавінаю міліярды людзей. Пры сучасным тэмпе натуральнага прыросту — 1,9 працэнта штогоду — на працягу наступных 38 гадоў жыхарства сьвету падвоіцца: у 2006 годзе нашага брата на зямлі будзе блізу сем міліярдаў.

Усіх людзей на сьвеце тры з палавінаю міліярды чалавек. Палавіна зь іх жыве ў матар'яльнай бядзе й нястачах.

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі, дзе налічваецца больш за дзьвесьце міліёнаў чалавек, шмат гавораць цяпер пра гэтак званы „выбух жыхарства", інакш кажучы, пра бескантрольны рост колькасьці людзей у сьвеце й непрапарцыянальна малы рост іхнае матар'яльнае забясьпечанасьці. Дыспрапорцыя гэтая, кажуць, тоіць у сабе пагрозу сацыяльна-рэвалюцыйных закалотаў, а гэтым самым паважную небясьпеку для міру ў сьвеце.

Пытаньне гэтае цяпер яшчэ больш завайстрылася ў выніку асуджэньня Каталіцкай царквой сяродкаў супраць цяжарнасьці, пры дапамозе якіх у некаторых сем'ях кантралюецца або спыняецца прырост сям'і.

У сувязі з усім гэтым нядаўна ўсплыла наўзьверх актуальная справа разуменьня між Амэрыканцаў ды іншых народаў праблемы вялічыні сям'і. Разуменьне гэтае, як ведама, мяняецца з часам у залежнасьці ад фактараў культурных, сацыяльных, эканамічных. Між іншага вялічыня сям'і залежыць галоўна ад матар'яльнага дабрабыту. Тэорыя гэтая не адмерла й дасюль. У „Большой Советской Энциклопедии", прыкладам, у томе 36-ым выданьня 1955 году пад словам „Рождаемость" кажацца наступнае:

„Агульнае зьніжэньне нараджальнасьці ў капіталістычных краёх — вынік перш-наперш усяго зьніжэньня ўзроўню нараджальнасьці ў працоўных ... У супрацьлежнасьць да тэндэнцыі зьніжэньня нараджальнасьці ў капіталістычным сьвеце, у Савецкім Саюзе высокі ўзровень нараджальнасьці". Цяпер савецкая сацыялёгія ад гэтае тэорыі адмаўляецца. А гэта затым, што апошнімі гадамі ў Савецкім Саюзе крута скараціўся натуральны прырост: тымчасам як у Амэрыцы ў 1957 годзе ён станавіў 1,4 працэнта, дык у Савецкім Саюзе ён зьнізіўся да 9,8 працэнта. Заходнія, а ў тым ліку й амэрыканскія сацыялёгі, ніколі не ўзаляжнялі натуральнага прыросту жыхарства вылучна ад матар'яльнага дабрабыту, хоць уважалі яго заўсёды за вельмі важны фактар.

Як-жа сяньня, у вабліччы дыскусіяў і спрэчак пра „выбух жыхарства", пагрозу голаду ў сьвеце й сацыяльна-палітычных закалотаў ды супярэчак вакол забароны Каталіцкай царквой сяродкаў супраць цяжарнасьці (у Амэрыцы больш за 40 міліёнаў каталікоў) Амэрыканцы глядзяць на праблему колькасьці дзяцей у сям'і?

Вось-жа нядаўна Інстытут грамадзкае думкі Гэлапа із сваймі афіліяванымі аддзеламі ў іншых краёх паспрабаваў даць адказ на гэтае пытаньне, правёўшы анкету-апытаньне ў дзесяцёх краёх: ЗША, Галяндыі, Вялікабрытаніі, Нарвэгіі, Уругваі, Грэцыі, Фінляндыі, Швэцыі, Швайцарыі, Аўстрыі. Пытаньне анкеты гучэла гэтак: „Які на вашую думку ідэяльны лік дзяцей для сям'і?" За тое, каб было чатыры або больш дзяцей, у Амэрыцы выказалася найбольш — 41 працэнт апытаных. Наступная йдзе Галяндыя — 24 працэнты. А ў іншых краёх працэнт яшчэ меншы: у Грэцыі — 19, у Швайцарыі — 11, а ў Аўстрыі найменш — адно 7 працэнтаў сем'яў хацелі-б мець чатырох або больш дзяцей. 41 працэнт у Амэрыцы супраць 1966 году становіць падвышэньне на шэсьць працэнтаў.

На нядаўна праведзенай гадавой канфэрэнцыі арганізацыі, што завецца „За плянаваньне бацькоўства й жыхарства сьвету", было сьцьверджана, што прырост жыхарства Амэрыкі спрычыняецца галоўна семʼямі, што адзначаюцца добрай асьветай ды жывуць у вадпаведным матар'яльным забясьпечаньні. **Я. З.**

# МАНІФЭСТАЦЫЯ СЛАВАКАЎ У НЬЮ ЁРКУ

27 кастрычніка сёлета ў Імпэрыял Болрум гатэлю „Амэрыкана" ў Нью Ёрку мела месца маніфэстацыя і ўрачысты банкет, зладжаны Славацкай Лігай Амэрыкі. Побач із сьвецкімі й духоўнымі славацкімі дзеячамі, у імпрэзе прынялі ўдзел і прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў, між імі й ад Беларусаў, а таксама такія выдатныя асабістасьці, як сп. Г. У. Бол, былы амбасадар ЗША пры Задзіночаных Нацыях, сп. Эдвард С. Ніксан, малодшы брат рэспубліканскага кандыдата на Прэзыдэнта ЗША Рычарда Ніксана, і іншыя.

Мэтаю маніфэстацыі было прадэманстраваньне перад вольным сьветам непахіснага дамаганьня Славакаў вольнай і незалежнай Славаччыны ў сувязі з 50-мі ўгодкамі падпісаньня ў Пітсбургу ўмовы між Т. Масарыкам ад Чэхаў і ген. Стэфанікам ад Славакаў пра ўтварэньне Чэха-Славацкай рэспублікі ў 1918 г.

Як ведама, умова гэная гэтак і засталася мёртвай літарай: Чэхі захапілі сабе ўсю ўладу і праз 50 год, з малым перапынкам у часе мінулае вайны, Славакі ня мелі тых правоў, што Чэхі. Гіроніяй лёсу толькі пад уладай лібэральнага камуністага А. Дубчэка Славакі атрымалі поўную аўтаномію і поўную роўнасьць у фэдэрацыі з Чэхамі.

Якраз у гэны самы час, калі адбывалася гэтая маніфэстацыя ў Нью Ёрку, у Празе Чэскай завяршаліся фармальнасьці, зьвязаныя зь пераходам Чэха-Славацкай рэспублікі ў фэдэрацыю дзьвюх роўных дзяржаваў. Толькі-ж мала Славакам радасьці з гэтае перамены: пазбавіліся яны гэгэмоніі Чэхаў, але-ж хто збавіць іх ад няпрошаных гасьцей — маскоўскіх камуністых, што снуюць там ужо свае пляны?

**Д.**

✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤✤

**Чытайце, выпісвайце,**
**пашырайце часапіс Беларусаў**
**у Вольным Сьвеце**
**„БЕЛАРУС"**

йція аб нечым вясёлым і сьмешным. З голасам чытача-спажыўца лічыцца трэба. Толькі, калі ласка, да мастацкай літаратуры з пашанай! Што варты народ бязь літаратуры?! Суседзі пазнаюць і расцэньваюць нас паводля нашае літаратуры. Адраджэньне нашага народу адбывалася поруч і дзякуючы адраджэньню нашай літаратуры. Літаратура корміць і гадуе народ. I „... пакуль паэты будуць пець, ня быць краіне безіменнай, зямлі бацькоў не анямець." Дык і зусім слушна „Беларус" прысьвячае належнае месца роднай літаратуры.

Прыйшоў „Беларус". Пасьля працы, гатовая да адпачынку й спажываньня духовае стравы, села чытаць „Беларуса" ад першага да апошняга яго радка. За колькі часу ў віры штодзённага жыцьця ня толькі зьмест, але й існаваньне газэты зьйшло з гарызонту сьвядомасьці. Ішла вуліцай, на тратуары перада мной ляжаў разнаколерны лісток клёну. Прыліў цяпла й тугі заліў душу, гэная „вечная любоў". Падняла лісток ... нешта прыпамінаецца ... „У векавечнай бацькаўшчыне клёны..." Чыё гэта? ... Скуль? ... У „Беларусе"? ... „Даляглядзы" ... Караткевіча? ... Пасьля праверыла, пераканалася й падумала: вось што западае ў душу, што саграе й узмацняе маральны хрыбет, тую, кажучы славамі Ул. Караткевіча, „вечну юлюбоў", тое палкае хаценьне дабра для Бацькаўшчыны.

Іншыя гавораць: Мяне найбольш цікавяць весткі, што дзеецца ў розных беларускіх асяродках. Гэта бадай усіх нас цікавіць. А калі так, дык варта зьвярнуць увагу, як іх падаваць, каб яны былі найболей карыснымі. Аб тым, што дзеецца ў розных беларускіх асяродках, падаецца ў газэце ў форме справаздачаў і так званае „хронікі", якая можа, а некаторыя думаюць, што пажадана, каб гучэла прыблізна так: Там і там, тады й тады адбылося (скажам) сьвяткаваньне 125-тых угодкаў ад нараджэньня Ф. Багушэвіча. Той і той прачытаў даклад, жанчыны зрабілі смачны абед, а на заканчэньне ўсе засьпявалі нацыянальны гімн. З такой справаздачы чытач даведаецца нямала, але й нямнога. Некаторыя ўважажаюць, што так павінна пісацца „хроніка", бо ў „Беларусе" месца на думкі няма́ш. Не палохайцеся! Месца на думкі ёсьць, толькі не на ўсякія, бо „думкі думкам няроўныя". Праўда! Але ўсёж-такі нешта з гэтай хронікай не ў парадку. Усё-ж чытачу хацелася-б ведаць трошачкі болей пра дадзены асяродак, ды пра тое, што гаварыў дакладчык, хоць самыя галоўныя думкі, ды канец канцоў нешта пра гэнага Багушэвіча, бо ці забылася на той час, ці мо' зусім не давялося чуць, хто ён такі быў ... Хадзілася-ж у польскую, ці якую там школу, а пра яго там не ўспаміналі ...

Чытала ў газэце, што Яго Эксцэленцыя Біскуп Часлаў Сіповіч наведваў Аўстралію. Былі прыняцьці ... цікава, што гаварыў Яго Эксцэленцыя, што гаварылі людзі. Яны так далёка ад нас, чым яны там цяпер жывуць ...? Даведалася, што ў лёнданскім беларускім музэі перахоўваецца грудка беларускай зямлі й што гэтая вестка выклікала авацыі ў прысутных. Гэта ўжо шматшто гаворыць.

У 126-тым нумары „Беларуса" ёсьць справаздача „Ад нашага спэцыяльнага карэспандэнта" аб „Беларускім нацыянальным дні на Экспа — 67". Яшчэ летась чытаючы гэтую справаздачу, думала, што яна напісана надзвычай добра — інфармуюча, цікава, жыва, бо ... з думкай і сэрцам, бо факты былі ня толькі пададзеныя, але й насьветленыя іншымі фактамі з закулісаў савецкай палітыкі. Як добра, што „Наш спэцыяльны карэспандэнт" не ўважаў, што ў „Беларусе" няма месца на думкі й не пашкадаваў іх даць нам, за што яму чытач ёсьць удзячны.

Скажаце, што гэтая падзея была важнейшай за ўгодкі Багушэвіча. — Залежыць зь якога пункту гледжаньня будзем глядзець. Скажаце, аўтар справаздачы, па ўсім відаць, ёсьць высокакваліфікаваным карэспандэнтам, таму яму можна даць слова для думак. — Згода, але нам ходзіць пра прынцып, ды мы мусілі пагадзіцца з рэальным фактам, што ўсе карэспандэнты „Беларуса" аніяк ня могуць быць высокакваліфікаванымі. Што-ж рабіць, чаго трымацца?

Кажуць, цяжка пісаць справаздачу, бо як пахваліш аднаго, дык сьцеражыся, каб гэтым самым другога не панізіць. Выглядае, што нікога ня трэба ані хваліць, ані ганіць. Але як тут не пахваліць, скажам, дакладчыка, калі даклад быў так цікавы, зьмястоўны й прыгожа паданы?! Заміж траціць месца, якога вечна ў газеце не хапае, на хваленьне, ляпей даць калі ўжо не кароткую сынтэзу дакладу, дык хаця некалькі з тых цэнных думак і фактаў, дзякуючы якім даклад быў цікавы. З гэтага чытач сам зар'ентуецца, што даклад быў добры, ды падарозе сам зь яго скарыстае, ды ніхто ня будзе мець прычыны абражацца, што яго таксама не пахвалілі.

Ёсьць група чытачоў, пра якіх прынамся некаторыя з нас, забываюць. Гэта моладзь. Тая моладзь, што мела шчасьце авалодаць беларускай граматай.

— Ты чула, што Галіна дастала першае месца ў пінгпонгу?

— Так, я чытала ў „Беларусе" — адказвае 14-цігодняя дзяўчынка.

— Што ты болей чытаеш?

— „Весткі з Канады" ... калі пра моладзь пішуць ...

Раз я няўважна зрабіла памылку. Адну танцавальную групу моладзі быццам пахваліла, а тым самым выйшла, што другую панізіла. Тая самая гісторыя, што з дакладчыкамі! I што вы думаеце, непатрэбна зрабіла прыкрасьць маладзенькім чытачом. Гэтыя самыя маладыя чытачы заўважылі: апошнімі часамі ў „Беларусе" няма здымак. Яны пакрысе ёсьць, але для іх замала. Ды да справаздачы з 8-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі далучыць некалькі здымкаў было-б вельмі пажадана.

Наапошку: першым справам першае месца, а другім другое. Калі-б у нас была газэта, калі ня штодзённая, дык хаця тыднёвая, (а ня месячная, як яна ёсьць), тады-б было месца на ўсялякія тэмы: аб тэхніцы, аб спорце, ды навет і на сьмяхоткі й раготкі. Але яна ёсьць, і грамадзтва ведае чаму, толькі месячнай, дык асабліва ў юбілейным годзе Беларускай Народнай Рэспублікі першае месца мелі, як і павінна быць, тэмы зьвязаныя з 50-ці годзьдзем БНР.

У прынцыпе трэба лічыцца з фактам, што людзі й іх зацікаўленьні ёсьць розныя й, калі хто хоча пісаць аб тэхніцы, ці гумарэскі, дык „Беларус" на гэтым ня страціць.

Як Ніл Гілевіч кажа:

„Хай будуць душы розныя ...
... Стандартам іх ня руш!
Хай будуць душы ўсякія —
Апроч нялюдзкіх душ."

Гэта хіба датычыцца й да спосабаў пісаньня „хронікі"?

**Р. Жук-Грышкевіч**

